# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 43 (1026) ГОД XX 26 КАСТРЫЧНІКА 1975 г. ЦАНА 60 гр.

Новыя вершы

**БАЦЬКАЎШЧЫНЕ**

*Табе я вечна вінаваты,*
*А расплаціцца не магу.*
*За хлеб, за соль, за боль,*
*за сьвяты*
*Я вечна у цябе ў даўгу.*

*За зорны вечар і дасвецці,*
*За чысціню тваіх крыніц,*
*За яблыняў тугое вецце,*
*За гул дажджоў і навальніц.*



*За светлую любоў і ласку,*
*За горы, рэкі і масты, —*
*За ўсё, што не па абавязку,*
*А проста аддаеш мне ты.*

*Ты ў мяне адна, як маці,*
*Непадуладная гадам.*
*Таму за твой спакой*
*і шчасце,*
*Як смерч шугне, жыццё*
*аддам.*

**Сяргей Грахоўскі**



*У майстэрні кааператыва завіхаецца каля сашнікоў каваль Іосіф Мялько.*

# КРЫНКІ

**ГМІННЫЯ ЦЭНТРЫ**

Крынкі з даўных-даўна вядомы як гарбарскае мястэчка, славяцца высакаякасным вырабам скуры. З даўных-даўна Крынкі з'яўляюцца таксама адміністрацыйным цэнтрам. Падчас вайны былі вельмі знішчаны і спалены. Няма тут да сённяшняга дня высокіх блокаў і прыгожых будынкаў. Людзей пасля вайны зменшылася больш як напалавіну, і таму Крынкі страцілі гарадскія правы. А выглядаюць Крынкі, як мястэчка. Тут больш 30-ці вуліц і завулкаў. У цэнтры, на месцы колішняга рынку, цяпер прыгожы сквер. Крынкі маюць сваю невялічкую бальніцу, добра развіваючуюся гарбарскую фабрыку, сваю пякарню і гарбарню, шмат гээсаўскіх пунктаў паслуг і нядаўна адкрыты прыгожы рэстаран. Людзі з навакольных вёсак прыязджаюць сюды і ў крамы, і да краўцоў, і да шаўцоў, і да кушняроў, і да лекараў, і ў аптэку, і да гмінных улад, і ў царкву ды касцёл. Уся ваколіца неяк звязана з Крынкамі. Ды апрача ўсяго гэтага Крынкі з'яўляюцца вузлавым цэнтрам дарог. І гэтымі дарогамі кожны чацвер едуць сяляне ў Крынкі на кірмаш.

**КРЫНКАЎСКАЯ ВАДА**

Не надта многа яе ў Крынках. Няма тут рэчкі. Ёсць проста ручай, які называецца Крынка і які тут, на лузе, мае свае вытокі. Але гэты ручай добра выкарыстаны. На гэтым жа лузе пабудаваны купальны басейн, напоўнены вадою з ручая. Карыстаюцца ім мясцовая спартыўная каманда ЛЗС і мясцовае насельніцтва. Такога басейна не маюць нават такія гарады, у якіх раней былі павятовыя ўлады. Крынкаўская вада добра таксама служыць мясцовай гарбарні. Кажуць, што дзякуючы гэтай вадзе гарбарня прадукуе вырабы высокай якасці. А крынкаўская аранжада і хлеб не маюць сабе роўных у наваколлі. Пасля аналізу і даследавання крынкаўская вада прызнана вельмі здаровай для арганізма чалавека. І можна яе прымяняць як сталовую ваду. Яна па сваіх якасцях перавышае нават „Аўгуставянку". Мясцовы ГС рыхтуецца да масавай прадукцыі „Крынкаўчанкі". На працягу аднаго дня будзе яе выпрадукавана 10-12 тысяч бутэлек.

**НОВАЕ Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ**

Слабыя землі на Крынкаўшчыне. 20 цэнтнераў збожжа з аднаго га лічацца там за добры ўраджай. Сенажацямі гэта ваколіца таксама небагатая, бо небагатая рэкамі. Праўда, ёсць непадалёк рэчачка Нетупа. І там ужо на 200 гектарах праведзена меліярацыя, цяпер сяляне накошваюць там па 80 цэнтнераў сена з аднаго га. Некаторыя гаспадары спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі. На першае месца крынкаўскія ўлады ставяць Станіслава Глябовіча з Шаціл, які мадэрнізаваў свае хлявы і плануе гадаваць 100 штук свіней. На дзяржаўным фондзе зямлі ўжо некалькі год дзейнічае ПГР, які выкарыстоўвае нават самалёт для некаторых прац (аб гэтым шырэй пісалі мы ўжо ў „Ніве"). ПГР у сваіх планах прадбачвае ў шырокім маштабе развіццё авечкагадоўлі. Сядзібу сваю ПГР мае ў Крынках, дзе рас-

(Працяг на стар. 4)

# БОЛЬШ ЛЕПШ ХУТЧЭЙ!

VII ZJAZD

Пачаткі вытворчага кааператыва ў **Кандратках** не належалі да лёгкіх. Сабралася з Кандраткаў, Ялоўкі, Ганчароў некалькі асоб, ахвотных да калектыўнага гаспадарання, сярод іх **С. Напора, В. Пенкус** і **В. Апунік.** Пачыналі амаль на пустым месцы, бо на некалькі дзесятках гектараў аблогаў ды ў аборы і свірне, што засталіся пасля ранейшага кааператыва. Кірунак гаспадарання прынялі правільны: гадоўля курэй. Спачатку дзейнічалі як філіял вытворчага кааператыва ў Дарожках, а калі колькасць членаў павялічылася да 11 асоб, у пачатку 1972 г. арганізавалі самастойную гаспадарку. Апрача раслiннай вытворчасці, гадоўлі курэй, пачалі гадаваць тонкарунных авечак, набыўшы іх 30 штук.

— І ўжо першы год нашага самастойнага гаспадарання даў абяцаючыя вынікі, — расказвае галоўны бухгалтар кааператыва **Антаніна Гайдучэня.** — Праўда, са збожжам на аблогах пайшло цяжка: планавалі мы даходу 1 мільён 600 тысяч злотых, а атрымалі ўсяго 700 тысяч. Затое выручылі нас куры, у плане ў нас было 1 мільён 530 тысяч даходу з птушкафермы, а дала яна нам 1 мільён 833 тысячы. І

Працяг на стар. 4

# ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ І ЗАЎТРАШНІ

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"**

**Канцэрт на тры хоры з танцамі ● Людзі: — цуд гаспадарчы! ● Конкурсы ГП БГКТ на 1976 год ● Электрычная энергія для Беластока ● Мы — беларусы ● Літаратурная старонка ● Боцькаўскі „Бусел" ● Весткі з Крынак, Заблудава, Храбалоў, Бельска, Дубіч Царк., Чаромхі, Сакалды ● Калі сніцца жывая рыба ● Песня „Wszystko kwitnie wkoło".**



*Асенняя дарога.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

 

# ПУЦЁЎКА Ў ЖЫЦЦЁ

Гайнаўскі беларускі ліцэй невялікі. У ім вучыцца каля трохсот вучняў. Яны размешчаны ў васьмі аддзелах, гэта значыць кожны клас мае па два паралельныя аддзелы. Усе яны памяшчаюцца ў малым, нізкім і старэнькім будынку па вуліцы Вызвалення. Каля будынка прасторны школьны панадворак і сад. І ў самым будынку, і на панадворку, і ў садзе прыкладны парадак, усюды відаць клапатлівая рука іх гаспадароў — вучняў і настаўнікаў. Зрэшты, аб гаспадарнасці і працавітасці вучняў Гайнаўскага беларускага ліцэя вядома на Гайнаўшчыне. Ужо не раз яны займалі перадавыя месцы ў розных спаборніцтвах, конкурсах і прадметных алімпіядах, зрэшты, аб гэтым ужо неаднойчы пісалі на старонках газет.

Сёння я хацеў бы расказаць пра другое — прыглянуцца бліжэй вучням гэтага ліцэя, іх штодзённай нялёгкай працы і бясспорным эфектам гэтай працы, а таксама прасачыць, як выкарыстоўваюць вучні пуцёўку ў жыццё, якую дае ім гэтая школа. Для прыкладу возьмем апошні выпуск, які закончыў ліцэй у мінулым навучальным годзе. Гэты выпуск распачаў навуку ў ліцэі чатыры гады таму назад, гэта значыць, у 1971/72 навучальным годзе. Да двух паралельных аддзелаў першага класа прынялі тады 84 вучняў. Што можна сказаць пра гэты набор? Трэба адразу адзначыць, што гэты набор, як і набор кожнага іншага навучальнага года, быў даволі слабы, бо што тут граха таіць, найлепшыя вучні ідуць у тэхнікумы, у суседні польскі ліцэй і нават у прафесіянальныя школы. Прычыны? Ну, бо і школьны будынак слабенькі, у якім цяжэй працаваць і вучню і настаўніку, і дадатковы прадмет трэба вывучаць, і..., ці варта вылічаць гэтыя і, аб іх і так ужо многа сказана на старонках „Нівы“. Факт астаецца фактам, на пасведчаннях прынятых вучняў пануючай ацэнкай была тройка. І так, у першы перыяд вучобы ў першым класе на 84 вучняў аж 30 вучняў атрымалі двойкі. Сярэдняя ацэнка на аднаго вучня складала нямногім больш 3,1. Але гэтыя два даволі нецікавыя паказчыкі ў наступныя перыяды пачалі паволі змяняцца на лепшае: першы — памяншацца, а другі — узрастаць. Пагляньма на гэты набор у трэцім і чацвёртым класах. Распачало вучобу ў трэцім класе 67 вучняў. Іншыя па той ці іншай прычыне перарвалі вучобу, змянілі сабе школу, або адпалі па дарозе. Гэтыя 67 вучняў ужо без перашкод закончылі трэці клас, а праз год і сярэднюю школу; сярэдняя ацэнка, напрыклад, пры дапушчэнні да матуры складала ў іх ужо звыш 3,5. З гэтай колькасці здалі матуру і атрымалі атэстат сталасці 62 вучні. 32 выпускнікі падалі дакументы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, прычым 5 найлепшых, за добрыя вынікі ў навуцы і на прадметных алімпіядах, былі залічаны студэнтамі першага курса выбраных вузаў (адна, напрыклад, стала студэнткай Ленінградскага палітэхнічнага інстытута), без уступных экзаменаў, а 27 чалавек — прыступіла да ўступных экзаменаў і 19 з іх здало гэтыя экзамены. Лёс тых выпускнікоў, якія не стараліся пастуціць у вузы, злажыўся па-рознаму: частка з іх пастуціла ў розныя паматуральныя школы, частка — у афіцэрскія школы, а частка адразу пайшла на работу. Вось так складана выглядаюць пуцявіны аднаго толькі набору і выпуску, а падобна выглядае статыстыка амаль кожнага набору і выпуску.

Цяпер можам сабе ўявіць, якая вялікая адказнасць ляжыць на школе і кожным настаўніку за лёс іх вучняў. Вынікі гавораць аб добрай рабоце школы. А ўлічыўшы дадатковыя цяжкасці, якія ўласцівы толькі гэтаму ліцэю, як параўнальна слабы набор вучняў у першыя класы, непрыстасаванне школьнага будынку да вымаганняў сучаснай сярэдняй школы, брак інтэрнату ў той час, калі звыш 10 прац. вучняў гэтай школы штодзённа даязджае ў школу нашай „слаўнай“ (маю на ўвазе перш за ўсё аўтобусы) камунікацыяй, то можна і радавацца.

**В. С.**



*Пісьманосец Уладзімір Весялоўскі адпраўляецца ў дарогу.*


*Ужо 22 гады Сцяпан Кучынскі працуе загадчыкам пошты ў Пасынках.*

## А ВЕТЛІВУЮ ЎСМЕШКУ ДАЮЦЬ БЕЗ ПАДПІСКІ

Ужо дваццаць два гады тыя самыя рукі таго самага начальніка адкрываюць паштовы мяшок, вытрасаючы з яго газеты, часопісы, пісьмы, надышоўшыя з розных куткоў краіны і свету. Потым спрытна раскладаюць, згодна з адрасамі, на купкі. Памылкі тут недапушчальныя. Кожнае пісьмо, кожная газета ці тэлеграма свайго гаспадара знойдзе.

Пошта ў Пасынках, якая існуе ад 1952 г. і якая ад пачатку змяшчаецца ў адной і той жа прыватнай кватэры, абслугоўвае жыхароў дванаццаці даволі вялікіх вёсак, не ўлічваючы хутароў, якіх таксама ёсць шмат. І штодзень усё трэба аб'ехаць, усюды ж трэба давезці свежую прэсу. А колькі ж вачэй спаглядае на вуліцу з дрыжаннем сэрца, чакаючы паштальёна, які можа якраз сёння прывязе тое доўгачаканае пісьмо. Нельга ж ашукваць тых, хто чакае. І кожны дзень паштальёны сядаюць на свае матавеласіпеды, якія атрымалі чатыры гады таму назад, ды імчацца жвірыстай дарогаю з поўнымі торбамі навін, радасці, суму, робячы па 30 км у дзень.

Іх тут трое: начальнік Сцяпан Кучынскі, які працуе ўжо 22 гады, і два паштальёны — Яўген Весялоўскі з 21 годам стажу на адным месцы і Уладзімір Весялоўскі з 22-гадовым стажам. Не, гэта не браты, хаця і прозвішчы аднолькавыя, але жывуць можа яшчэ лепш, чым браты. Шматгадовая праца з'яднала іх. Часам немагчыма проста ўявіць, адкуль можна ўзяць столькі ветлівасці. Кожная газета ці пісьмо, загорнутыя ў шчырую ўсмешку і цёплае слова, яны даюць проста так, без падпіскі.

Моцна палюбілі яны сваю працу і таму сур'ёзна да яе адносяцца. Аб гэтым сведчаць многія, развешаныя на сценах, дыпломы. За добрыя вынікі і за тое, што занялі першае месца ў спаборніцтве паміж рознымі поштамі Пасынкі атрымалі ад УОПТ у Бельску два пераходныя кубкі.

Ну, і справа найважнейшая. Падпіска!

Пошта дабілася высокіх вынікаў. Ёсць гаспадары, якія выпісваюць па тры, а нават і па чатыры газеты.

Вельмі цешыць факт, што сярод 800 экземпляраў розных газет, наш тыднёвік „Ніва“ стаіць на першым месцы. На апошнюю чвэрць года падпісалася 205 асоб. Найбольш чытаюць у Піліпках, Катлах, ну, і ў пачатковай школе ў саміх Пасынках. Настаўніца беларускай мовы Ірына Сяргеюк дбае пра тое, каб вучні чыталі „Ніву“. Дзякуючы ёй выпісала газету 50 дзяцей.

**М. Шаховіч**
Фота **Я. Цялушэцкага**

БЕЛАРУСІЯНА

### ВАКОЛ БЕЛАРУСКАГА ПАЎСТАННЯ

У другім нумары **„Навуковых сшыткаў Інстытута палітычных навук Варшаўскага універсітэта“** апублікавана праца Юзэфа Пацука **„Фармаванне адносін КПП і КПЗБ да ўзброенага паўстання (1924-1925)“.**

Нацыянальна-вызваленчы рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі лічыўся адной з галоўных сілаў сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы. Другі з'езд Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, які адбыўся ў пачатку восені 1923 года, вырашыў утварыць Камуністычную партыю Заходняй Беларусі дзеля аб'яднання беларускага нацыянальна-вызваленчага руху з рэвалюцыйным рухам.

Кіруючыя дзеячы маладой КПЗБ хутка прыйшлі да вываду, што ўжо час пачынаць арганізоўваць беларускае ўзброенае паўстанне за далучэнне да БССР. На іх думку, спрыяла гэтаму надзвычай цяжкая гаспадарчая сітуацыя, рост нездаволенасці беларускіх мас, узмацненне партызанскага руху. Паўстанскія пастулаты, высунутыя ад імя КПЗБ, былі адхілены кіраўніцтвам Камуністычнай рабочай партыі Польшчы, якое лічыла, што ўнутраная і міжнародная сітуацыя з'яўляецца неспрыяльнай беларускаму паўстанню.

У лістападзе 1924 года адбылася другая канферэнцыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Яе ўдзельнікі адкінулі ідэю аўтаноміі Заходняй Беларусі і прынялі пастановы, якія абавязалі заходнебеларускіх камуністаў рыхтаваць узброенае паўстанне.

Нарастанне партызанскага руху і пашырэнне паўстанскіх настрояў сярод заходнебеларускіх мас, а таксама адпаведныя гэтаму становішчу заклікі КПЗБ прычыніліся да раптоўнага павелічэння камуністычных уплываў. Ад чэрвеня да снежня 1924 г. лік членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі вырас з паўтары да дзвюх з паловай тысяч! Аднак жа арганізоўванне беларускага паўстання не магло заставацца ўнутранай справай КПЗБ ці КРПП. Прааналізоўвалі гэта ўлады Камінтэрна і некалькіх іншых камуністычных партый. Рабілася ясна, што беларускае паўстанне магло б удацца толькі тады, калі мела б яно рэвалюцыйную падтрымку з боку польскіх рабочых ды сялян, а таксама з боку СССР і працоўных Еўропы. Такіх умоў не было і, натуральна, яго выбух паслужыў бы прычынай для паглыблення нацыяналістычных, антыбеларускіх ды антысавецкіх настрояў сярод польскіх працоўных, што, ў канчатковым выніку, давяло б да заняпаду рэвалюцыйнай хвалі ў цэлай краіне.

У радах Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі ўзнік раскол: прыхільнікі паўстання ўтварылі Часовы Цэнтральны Камітэт КПЗБ. Пачалася вядомая „сецэсія“.

Сёмага студзеня 1925 года адбылося надзвычайнае пасяджэнне Палітбюро ЦК Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі ў Мінску, падчас якога, выказаўшыся адмоўна наконт „сецэсіі“, было пастаноўлена зрабіць захады ў Камінтэрне дзеля грунтоўнага разгляду ўзнікшага ў КПЗБ становішча. Праз тры тыдні пазней сакратарыят ЦК КПЗБ накіраваў у акруговыя камітэты тайны цыркуляр, у якім партызанскі рух быў прызнаны шкодным у даны момант, а члены партыі, што падтрымоўваюць яго, павінны быць выключаны і ізаляваны ад партыйных ячэек. Аднак жа беларускі партызанскі рух далей шырыўся!

Аб беларускім паўстанні шмат было гутаркі на трэцім з'ездзе КПП, што адбыўся ўзімку 1925 года. Прадстаўнік Камінтэрна Дзмітры Мануільскі заявіў, што Савецкі Саюз не змог бы выступіць з узброенай падтрымкай беларускаму паўстанню, бо закончылася б гэта вайною, вельмі непажаданай СССР.

Цэнтральны Камітэт КПЗБ накіраваў у партызанскія атрады сваіх прадстаўнікоў з заданнем давесці да іх ліквідацыі.

Юзэф Пацук прыходзіць да вываду, што беларускае паўстанне, нават у такой недастатковай стадыі арганізацыі яго, магло разлічваць на перамогу, але пры ўмове дзейснай падтрымкі з боку БССР або выбуху ўсепольскай рэвалюцыі.

Пасля трэцяга з'езду КПП далейшае існаванне беларускага партызанскага руху пагражала абмежаваннем уплываў КПЗБ, якая, у выпадку ўзброеных хваляванняў, была б вымушана ўзначальваць іх без перспектыў на ўдачу. Адносінамі камуністаў да беларускага паўстання сквапна скарысталіся буржуазныя ўлады, якія выпрацоўвалі спосабы гвалтоўнай асіміляцыі далучаных да Польшчы тэрыторый.

Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух часова заняпаў. **Сакрат Яновіч**


**Сцэна з п'есы Л. Кручкоўскага „Немцы“ ў выкананні самадзейнага калектыву з Паўлаў. Калектыў гэты на сёлетнім цэнтральным аглядзе тэатральнай самадзейнасці БГКТ заняў сумесна са скупаўцамі першае месца (катэгорыя драматычных калектываў). Фота Я. Цялушэцкага.**



 

Пачатак на стар. 1

# ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ І ЗАЎТРАШНІ

той гаспадарчы год мы закончылі ўсё ж даходам у 387 тысяч 522 злотых. З году ў год, паволі, але пастаянна рос даход і з раслiннай вытворчасці і з птушкафермы. Вось на мінулы, 1974 гаспадарчы год мы планавалі з птушкафер-

Цяпер гаспадарыць ён на 550 гектарах, у асноўным з дзяржаўнага фонду зямлі, што перадалі прастарэлыя сяляне за пенсію. Абрабляць яе нялёгка, бо яна запушчана і знаходзіцца аж у 64 кавалках, самы вялікі з іх — гэта 130-гектаравы ўчастак каля вёскі Дубляны. І зямля слабая — у асноўным пагоркі ды пяскі V—VI класа. З лугамі ды пашай таксама нялёгка. З агульнай іх плошчы 94 га — у бягучым годзе праведзена меліярацыя і засеяны травы на 25 га, але 30 га кааператыў пакуль што арандуе на лугах адлеглых у якіх 15 км над ракою Нарвай, каля Семяноўкі. Неўзабаве там мае паўстаць вадасховішча, і таму кааператыўшчыкі спяшаюцца стварыць уласную кармавую базу. На зямлі VI класа і розных няўдобіцах, пасля належнага ўгнаення, засяваюць спецыяльную сумесь траваў, якія даюць добры прырост пашы нават на пясках.



*На самым вялікім палетку кааператыва каля вёскі Дубляны кааператыўшчыкі сёлета засеялі „залатое данькоўскае“. Злева направа: брыгадзір палявых работ Вальдэмар Пенкус і трактарыст Вінцук Застоцкі.*

мы 1 мільён 917 тысяч даходу, атрымалі ж 1 мільён 924 тысячы, з раслiннай вытворчасці планавалі 1 мільён 877 тысяч, а атрымалі 1 мільён 750 тысяч злотых. Да гэтага прадалі воўны на 150 тысяч злотых. Наогул год закончылі нядрэнна — агульным даходам у 546 тысяч 378 злотых. Спадзяёмся, што і ў бягучым годзе вынікі не будуць горшыя, калі не лепшыя.

І хоць гэтыя даходы пакуль што не ідуць у дзесяткі мільёнаў ці нават мільёны злотых, але кааператыў у Кандратках ужо цвёрда стаіць на нагах.

— Побач з гадоўляй курэй, якіх мы адкормліваем у год каля 60 тысяч штук, што складае амаль 90 тон курынага мяса, асноўную ўвагу мы звяртаем на павелічэнне авечкагадоўлі, — інфармуе кіраўнік вытворчасці кааператыва **Ніна Раецкая**. — Да тых першых 30 штук мы дакупілі яшчэ 100 штук і цяпер наша авечая чарада складаецца з 338 штук. Пры гэтым мы ўжо прадалі на экспарт каля 60 бараноў. Ці ўсё ідзе, як па маслу? О, не! Маем і цяжкасці. Вось у мінулым годзе на птушкаферме быў значны ўпадак курэй. Але мы правялі грунтоўную дэзінфекцыю і дэратызацыю, з дапамогай ва ўвядзенні належнага санітарнага стану дапамог нам ветэрынар з Міхалова М. Клявіцкі і ў бягучым годзе гадоўля курэй ідзе добра. Маем цяжкасці з трактарыстамі і рамонтам трактароў. Цяпер у нас 7 трактарыстаў і 8 трактароў, з іх заўсёды 1-2 стаіць на рамонце. Можна было б прыдбаць яшчэ некалькі машын, але хто сядзе за руль? Наогул не хапае нам людзей да працы. Праўда, з кожным годам прыбывае нам членаў кааператыва, за апошнія два гады іх лік павялічыўся да 16 асоб, але сярод іх поўнасцю працаздольных усяго 14 асоб, таму мы наймаем дадаткова да працы каля 30 чалавек з па-за кааператыва.

— А якія перспектывы развіцця вашай гаспадаркі?

— Можна сказаць — аграмадныя. Да 1980 года абшар зямлі павялічыцца да 1100—1200 га, у гэтым ліку на 400 гектарах пашы плануем абсталяваць паліванне. Будзем гадаваць курэй, але перш за ўсё развіваць авечкагадоўлю, каб давесці нашу чараду да 3 000 штук і для іх паўстане новая ферма. У Ялоўцы ж збудуем машынны сектар і свінаферму на 120 штук матак. На палях будзем вырошчваць штораз болей кармоў, пачнем жа з 50 га мяшанкі ярай вікі з аўсом, скосім яе на сена, а пасля засеем зімовы рапак ужо на зерне. Ну, і будзем павышаць ураджаі збожжа.

Кааператыў не забывае і пра справы сваіх працаўнікоў. Цяпер узводзіцца жыллёвы будынак з сучаснымі кватэрамі для 8 сем'яў. Будзе ён гатовы к лету будучага года. Пакладзены ўжо фундаменты пад адміністрацыйна-сацыяльны будынак. Будуць у ім 2 кватэры, святліца, сталовая на 50 асоб, а таксама памяшканні для праўлення кааператыва. Будынак будзе здадзены да ўжытку к канцу 1976 г. Плануецца яшчэ адзін будынак з 18 кватэрамі. Каб падрыхтаваць сабе і навакольным сельгасгурткам новых механізатараў, кааператыў арганізуе ўжо зімой бягучага года ў Ялоўцы курс для трактарыстаў. У 1980 г. толькі ў кааператыве будзе іх працаваць 35 чалавек.

У Кандратках людзі знайшлі перспектыўнае вырашэнне цяжкай праблемы старэння вёскі і адыходу з яе моладзі. Зямля ў гэтых баках пуставаць не будзе!

**Ігнат Снарскі**
**фота аўтара**

## БЕЛЬСКІ МЕРКУРЫЙ БАГАЦЕЙШЫ

Бельскі ВСС дбае пра свой горад і яго жыхароў. Рэалізуе ён, хаця і каштоўны, але даволі карысны план. Будуе і хоча як мага хутчэй пусціць у ход аж шэсць новых крам-павільёнаў. Адзін такі самаабслуговы магазін, пры збегу вуліц 22 Ліпеня і М. Бучка, адкрылі дзевятага верасня гэтага года. Сярод вялікай колькасці секцый ёсць вяндлінна-мясная, якая замяшчае цэлую краму, што стаяла некалі непадалёк ад новапабудаванай. Мясныя вырабы будуць прадавацца тут не ад $9^{00}$, як было ў старой, а ад $6^{00}$. Апрача харчоў, можна тут купіць таксама і розныя тавары, патрэбныя ў хатняй гаспадарцы.

На тэму працы яшчэ нічога канкрэтнага сказаць нельга. Аднак паўтара мільёна злотых, якія выдажылі на пабудову, не загіне дарма. Адны толькі месячныя абароты, згодна з планам дырэкцыі, маюць дасягнуць мільёна злотых. А найважнейшае бадай тое, што жыхары гэтага раёна Бельска не будуць ужо хадзіць за пакупкамі ў цэнтр горада.

Варта адзначыць, што вялікі ўклад у заканчэнне пабудовы ўнеслі члены маладзёжных арганізацый. Займаліся яны ўпарадкаваннем склада і прадавецкай залы. Нават цяпер, калі крама, у якой працуе дзесяць маладых прадаўшчыц, перайшла да свайго штодзённага жыцця, моладзь не злажыла бяздзейна рук. Узялі яны на сябе абавязак дбаць пра чысціню. Перад уваходам зрабілі газоны і клумбы, на якіх ужо вясною засмяюцца першыя кветкі ды заблішчыць расою трава.

**М. Ш.**

Фота **Я. Цялушэцкага**



*Агульны від крамы.*

(Працяг са стар. 1)

## КРЫНКІ

пачаліся ўжо яго будоўлі. Крынкаўскія гмінныя ўлады робяць захады, каб мясцовы ПГР сваёй механізацыяй служыў таксама сельгасгурткам. Гэта была б зусім новая форма працы ў сельскай гаспадарцы, якая напэўна здала б экзамен у крынкаўскіх умовах.

### СУПРАЦОЎНІЦТВА З ГАРАДКОМ

Крынкаўская гміна граніча з Шудзялаўскай і Гарадоцкай гмінамі. Да вёскі Шудзялава ўсяго 8 км і спалучана яна з Крынкамі сакольскаю шашою, а да Гарадка па найпрасцейшай лініі будзе не менш 20 км. Крынкі з Гарадком не маюць шасейнага спалучэння. А гэтыя дзве мясцовасці, амаль роўныя па свайму значэнню і развіццю, хочуць супрацоўнічаць. Гмінныя ўлады пабывалі адны ў другіх і вырашылі супольна будаваць шашу. Праўда, не па найкарацейшай лініі, але затое па найтаннейшай. Гарадок заняўся б будовай у сваёй гміне, гэта значыць ад Бабpoўнікаў да Лужан, а Крынкі будавалі б шашу ад Крушынян да Лужан. У Крынках існуюць лішкі жаночай рабочай сілы, у той час, калі ў Гарадку на трыкатажнай фабрыцы „Каро“ яе не хапае. Аўтобуснае спалучэнне спрыяла б даезду жанчын з Крынак на работу на гарадоцкай фабрыцы. Многіх таксама цікавіць татарская этнічная група ў Крушынянах, якая мае там сваю мячэць. І ў Крушыняны тады можна было б даязджаць і з Гарадка і з Крынак.

### ДБАЙНЫЯ ЛЮДЗІ

Мясцовыя ўлады на чале з начальнікам гміны Вячаславам Пратасевічам і гмінным сакратаром ПАРП Яўгенам Касінскім належна клапоцяцца аб усіх справах свайго асяроддзя. Многа ўвагі яны ўдзяляюць асветным справам. Крынкаўская зборная школа разбудавала сваё памяшканне. У гміне даволі добра арганізаваны давоз дзяцей на заняткі. Шмат увагі ўдзяляецца ў Крынках мясцовым спартыўным камандам. Многа было стараннаў, каб у Крынках пачаў арганізоўвацца музей гістарычнага мінулага і рэвалюцыйных традыцый гэтага мястэчка. На Крынкаўшчыне многа добрых слоў можна пачуць аб кіраўніках гміны. Таварыш Пратасевіч і Касінскі — людзі з вышэйшай адукацыяй. Паходзяць яны з Крынак, добра знаюць псіхіку людзей гэтай мясцовасці і гэта таксама дапамагае ім вырашаць неаднойчы даволі складаныя справы свайго асяроддзя.

**М. Хмялеўскі**

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА XXVIII

**Проза.** Празаічныя творы займаюць у творчасці Гаруна маргінальную пазіцыю. Пастаянная занятасць фізічнай працай, кароткасць жыцця, урэшце схільнасці таленту не спрыялі развіццю празаічнай плыні ў творчасці пісьменніка.

Разгледзім толькі два апавяданні Гаруна „Пан Шабуневіч“ і „Свята“. Апавяданні прысвечаны розным тэмам. Аднак выступае ў іх і супольны момант. І адзін і другі твор адносяцца да беларускага лёсу, да жыццёвых і духоўных камплікацый беларусаў.

У апавяданні „Пан Шабуневіч“ Гарун даў досыць глыбокую характарыстыку католіка-беларуса Шабуневіча. Характарыстыка гэта даецца пісьменнікам на фоне палітычных падзей, звязаных з рэвалюцыяй 1905 года, і лютаўскай рэвалюцыяй 1917 г.

Атмасфера сходаў, палітычнай барацьбы, нацыянальных зрухаў паказана ў творы толькі эскізна. Галоўную ўвагу звяртае аўтар на Шабуневіча, у постаці якога ўвасабляюцца характэрныя рысы адраджэння беларускага спосабу мышлення. Барацьба Шабуневіча за права беларусам звацца паказана ў двух аспектах. Па-першае, Шабуневіч змагаецца за беларускасць у кругу сям'і. Па-другое, вядзе барацьбу за нацыянальныя правы беларусаў на публічным форуме.

Барацьба Шабуневіча — гэта перш за ўсё барацьба за эмансіпацыю беларускай мовы:

„Здаецца іншаму дурню, што змяніў ліповыя падошвы на раменныя, дык ужо і сам-не-сам зрабіўся. І лапці ганіць, і з сярмягі смяецца, а над сваёй гутаркай, якой маці пеставала, кпіць, ажно слухаць прыкра“.

Шабуневіч паказаны ў творы як добры селянін, як чалавек, прывязаны да жонкі і сына. Характарызуецца ён стабільнасцю характару, працавітасцю, міралюбівасцю. Здавалася б, чалавек такога тыпу не павінен бунтавацца супраць чаго-колечы. Рысы гэтыя, аднак, прападаюць у той момант, калі справы датычацца роднай мовы, беларускай асветы, права звацца беларусам. У такіх момантах праяўляецца ў паставе Шабуневіча і напорыстасць, і заўзятасць, і палемічнасць, і злосць. Характарызуючы гэтыя схільнасці Шабуневіча, Гарун піша:

„Але калі Янова (жонка Шабуневіча — А.Б.) прычэпіцца да яго за „простую гутарку“, тутака пан Ян, не ўважаючы на свой спакойны, па бацьку нябожчыку, характар, ніколі не ўступіць“.

Гэтая напорыстасць праяўляецца і ў выступленнях Шабуневіча на грамадскай ніве. Дамагаецца ён беларускіх спісаў на выбарах. Намагаецца стварыць беларускую школку і патрабуе ліквідацыі недарэчлівага тэзіса аб тым, што чалавек каталіцкага веравызнання — гэта паляк, а чалавек праваслаўны — гэта рускі. У рамках такога недарэчлівага тэзіса няма месца для беларуса, а якраз такога раўнапраўнага з іншымі нацыянальнасцямі месца дамагаецца Шабуневіч.

У сваім творы рысуе Гарун цікавыя сцэнкі з сямейнага жыцця Шабуневічаў. Паказвае праявы ідылічнай згоды паміж Шабуневічамі. Звяртае ўвагу на працавітасць у гэтай сям'і. Не скрывае аднак і канфліктаў, непаразуменняў, без якіх нельга пражыць нікому. У творы выступае і постаць самога аўтара. Гарун гаворыць аб сваім удзеле ў сходах. Успамінае таксама аб сваёй ссылцы ў Сібір і аб звароце ў Беларусь. Постаць пісьменніка займае аднак другапланавую пазіцыю. Уводзіць яе аўтар толькі з той мэтай, каб глыбей і больш усебакова паказаць Шабуневіча. Персанаж пісьменніка ў творы патрэбен для таго, каб Шабуневіч меў перад кім выказаць свае думкі, свае ідэі, свае канцэпцыі.

Твор „Пан Шабуневіч“ даволі спецыфічны ў сваёй фармальнай структуры. Займае ён пераходную пазіцыю паміж апавяданнем і нарысам, паміж апавяданнем і рэпартажам. Відаць, што пішучы свой твор, Гарун больш думаў аб тым, што сказаць, чым аб тым, як сказаць. Змест, а не форма была галоўнай мэтай пісьменніка. Зрэшты, чытаючы „Пана Шабуневіча“, бачым, што Гарун не валодаў майстэрствам навеліста. Нягледзячы на гэта, „Пан Шабуневіч“ — гэта характэрная карціна беларускіх клопатаў, беларускіх спраў, беларускай гісторыі.

## Этнаграфічнае акенца



*Лодка-доўбанка на рацэ Нарве каля Суража.* *Фота М. Гайдука.*

## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка"!**

Мне 17 год, вучуся ў сярэдняй школе. Нядаўна ў нас арганізавалася экскурсія ў горы. Я ахвотна паехала, бо ніколі там яшчэ не была. Было весела і тут я пазнаёмілася з Валодзем. Спадабаўся. Усюды мы разам хадзілі. Але што ж, час ляціць хутка і прыйшлося нам вярнуцца ізноў у школу, у наш горад. Валодзя з таго ж горада. Паабяцалі сябраваць надалей. Я дала яму свой адрас. Чакаю, што прыйдзе, але Валодзі, на жаль, не відаць. Чакаю, перажываю вельмі. Два разы бачыла яго здалёк у горадзе, ён мяне не прыкмеціў, а я саромелася падыйсці да яго і, наадварот, старалася схавацца, каб не ўбачыў. І так я яго, хоць здалёк, але бачыла два разы, а ён мяне ні разу. Няўжо яму не сумна па мне? Мае ж мой адрас, мог бы прыйсці, ці напісаць пару слоў. Парай, „Сэрцайка", што мне рабіць? Ці можа самой напісаць да яго?

**Лена з Бельшчыны**

**Лена!** Непатрэбна ты хаваешся перад Валодзем. Наадварот, убачыўшы яго здалёк на вуліцы, старайся спаткацца з ім. Толькі рабі гэта далікатна. Пісаць да яго не раю. Ён жа мае твой адрас, дык калі захоча, ён сам цябе знойдзе. Не накідайся. Хлопцы не любяць такіх дзяўчат. Так ці інакш, трымайся ганарова — хлопцаў таксама не бракуе.

**„Сэрцайка"**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Т., паміраючы, пакінуў завяшчанне, у якім запісаў цэлую гаспадарку сваёй другой жонцы. Разам з ім на гаспадарцы пражываў дарослы сын ад першай жонкі — інвалід II групы. Ці і якія правы на спадчыну прыслугоўваюць гэтаму сыну? Ці можа ён атрымаць частку гаспадаркі?

АДКАЗ: Паўналетняму, але няздольнаму да працы сыну, калі ўся маёмасць запісана завяшчаннем іншым наследнікам, прыслугоўвае „заховак", г.зн. 2/3 часткі вартасці таго, што ён атрымаў бы, каб завяшчання не было. Спадчына ў натуры яму не належыцца. Таму ён можа патрабаваць ад устаноўленых завяшчаннем наследнікаў, у даным прыкладзе ад мачыхі, 2/3 вартасці маёмасці, якая яму прыпала б, каб завяшчання не было. Калі апрача мачыхі і сына няма іншых наследнікаў, то сыну прыпала б па закону 1/2 спадчыны — калі б завяшчання на карысць мачыхі не было. Лёгка аблічыць, што 2/3 ад паловы спадчыны складаюць 1/3 цэлай спадчыны. Сын не мае права патрабаваць выдзялення яму 1/3 гаспадаркі, нават калі б падзел гаспадаркі ў даным выпадку быў магчымы. Ён можа патрабаваць сплаты 1/3 кошту гаспадаркі.

URSZULA SIPIŃSKA



## Фота па заказу

ЗАКАЗВАЛІ:
Галена Сцепанюк, Галіна Юзвюк з Барысаўкі, Тося Палавянюк, Геня Себясевіч, Геня Артэмюк з Парцава.

## Вер-не-вер

Сніліся мне такія сны. Вось сон першы. Пайшла я з сяброўкай у лес. Была ў гэтым лесе высокая гара. Раптам мы ўбачылі, што з гары імчыцца воз, а на ім сядзела многа людзей. Мая сяброўка хацела спыніць каня, але на яе пачаў крычаць гаспадар каня, які ехаў на возе. Я тым часам схавалася пад дрэва. Пад маё дрэва прыбегла сяброўка. Я падумала, што яна можа мяне выдаць і пачала на яе злаваць. Потым мы пачалі ўзыходзіць на гару. На дарозе стаялі снапы збожжа, і мы іх адстаўлялі на бок. Калі ўзышлі на гару, аказалася, што там была школа, у якой я вучуся. Сцены ў школе былі свежапамаляваныя. Я баялася, каб не выбрудзіць вопраткі, але вучні прыперлі мяне да сцяны і я выбрудзіла вопратку. У школе аказаўся мой бацька. Ён хацеў прадаць маёй выхавацельні (я вучуся ў сярэдняй школе) 4 галоўкі капусты. Капуста была малая, а лісце падзертае. Настаўніца купіла капусту, і я прачнулася.

Другі сон. Мне снілася, што ў нашай клуні вечарам расчыніліся дзверы, туды пайшоў мой бацька. Калі ён адтуль вярнуўся, мы чуць яго пазналі. Меў мой бацька доўгія валасы, а плечы, былі ўкрываўлены. Голас яго змяніўся. Ён гаварыў, што біўся з злодзеем, які ўлез у нашу клуню.

**Роза**

Што датычыцца першага сну, дык чакае вас нейкая цяжкая праца (высокая гара), але ў здароўі, (калі лес быў зялёны). Фурманка, што імчалася з гары, сведчыць аб тым, што будзе гэта нейкая хісткая, няпэўная справа, адолець якую не будзе лёгка (гаспадар не даў спыніць каня).

Вы схаваліся пад дрэва, а гэта ўжо азначала б добры паварот у вашых справах. Дык, зрэшты, вы ж узышлі на гару, а дасягнуць вяршыні — значыць, перамагчы перашкоды і быць шчаслівым. Снапы збожжа, якія вы бачылі, абазначаюць нейкі прыбытак, багацце. На дадатак, — на гары аказалася школа, а школа — гэта ўжо пэўная сямейная радасць. У гэтай радасці ізноў жа выступаюць нейкія перашкоды (сцены); брудная вопратка перасцерагае перад нейкім знеслаўленнем. Нейкія невялікія непрыемнасці з вашага боку чакаюць вашу настаўніцу (капуста).

Цяпер наконт другога сну. Ваш клопат (здаровы бацька) пайшоў у адчыненыя дзверы (поспех) і вярнуўся адтуль у крыві, хворы. Хворы бацька, — абазначае, што чакае вас нейкі спадак, абаронены ад утраты.

Другі сон як бы пацвярджаў, такім чынам, першы.

**Астрон**

## Ці ведаеце, што...

...цяпер у Польшчы ёсць 40 000 солтысаў.

...найстарэйшаму ядлоўцу ў Польшчы 500 гадоў. Расце ён у Астаёве на келецкай зямлі. Вышыня яго 750 см і аб'ём пня 80 см.

...у Польшчы ёсць 565 гасцініц з 43 327 начлежнымі месцамі.

...у нашай краіне ў службе здароўя працуе 124 449 медсёстраў.

...у нашай краіне дзейнічае 8 112 клубаў прэсы і кнігі, а таксама 68 клубаў міжнароднай кнігі.

(ця)

## Куток практычных ведаў





### ВЯЧЭРНІЯ СУКЕНКІ

Сёння ўжо доўгую сукенку сустрэнеш не толькі на карнавальным балі, але і ў тэатры, і ў гасцях на нейкай урачыстасці, ды нават вельмі часта і на вуліцы. Яна ўжо — не навіна. Зразумела, што доўгая сукенка, якую мы апранаем на вуліцу, будзе карэнным чынам адрозніваца ад той, якую мы пашыем сабе на баль. Будзе яна больш скромная, як кажуць, спакойная, спартыўная, адрозніваючаяся ад тых, што мы насілі раней, толькі даўжынёй.



Паколькі карнавал яшчэ, можна сказаць, за гарамі, дык прапануем сёння дзве сукенкі, якія найбольш падыходзяць, каб пайсці ў іх на нейкі вечар, канцэрт ці ў тэатр, у госці. Сукенкі скромныя і элегантныя. Ды што датычыцца супастаўлення матэрыялаў, можна крыху пафантазіраваць. Можна спалучыць нейкія два аднатонныя матэрыялы, можна ўзяць матэрыял у палоску і аднатонны, у клетку і колеру адной з клетак, у гарошак і аднатонны, зрабіць цікавы гальштук або прыгожы вялікі бант з істужкі ці матэрыялу.

**Сяброўка**





Шчарбак зморана сеў ля нябожчыка і, з паўхвіліны адсопваючыся, углядаўся ў мільготкі снегавы прастор. Снег пагусцеў і хутка засыпаў салдатавы вусы, зямлісты нятолены твар.

— Закурыць бы, халера! Ды няма.

— У Кеклідзе павінна быць, — сказаў Цімошкін, успомніўшы, як раніцай, яшчэ ў жывога яго, закурвалі хлопцы.

Шчарбак заварушыўся, палез у акоп, а Цімошкін знясілена апусціўся ля сувязіста, ужо не адчуваючы таго, што звычайна адчуваюць здаровыя людзі паблізу нябожчыкаў. Здабудзька ж, пэўна, яшчэ не пераадолеў у сабе страху да мёртвага і ваўкавата стаяў насупраць. Наводчык з хвіліну папоркаўся ў акопе і вылез, трымаючы ў руках маслёнку з двума рыльцамі, у якой Кеклідзе насіў махорку.

— Яму ўжо не трэба, — сказаў ён. — Сваё адкурыў.

Захінаючыся ад ветру, Шчарбак скруціў цыгарку, прыкурыў з-пад палы і на кароткі час прыціх у маркоце.

— Крыху знаёмы, — памаўчаўшы, кіўнуў ён на сувязіста. — Некалі на фарміроўцы разам патрулявалі. Вясёлы быў дзядзька. Усё пра баб расказваў...

Шчарбак скоранька перакурыў, і яны апусцілі сувязіста да сваіх двух хлопцаў. Пасля Шчарбак і Здабудзька ўзялі рыдлёўкі.

Надышоў канец. Яны зрабілі што маглі — для жывых, якія адступілі на ўсход, і для мёртвых, што назаўсёды засталіся тут, на кукурузным ускрайку чужой зямлі. Ніхто не сказаў на гэтым начным пахаванні ні слоў жалю, ні пахвалы нябожчыкам, пралапатала толькі зямля аб палатку, як заўсёды, тупы боль сціснуў сэрцы ды змакрэлі павекі. І добра, што прастор ахутвала ноч і нікому не трэба было адварочвацца і хаваць тае сарамлівае адзнакі свае мужчынскае слабасці...

**2.**

Зусім ужо адзінокія і нічым болей не звязаныя з тым кавалкам зямлі, на якім яны два тыдні жылі і біліся з ворагам, хлопцы пайшлі на ўсход.

Нейкі час ішлі кукурузай, прадзіраючыся праз яе непадаткі сцяблісты зараснік. Было цёмна, сцюдзёна і ветрана. Ад шорхату падмёрзлага кукурузнага лісця зусім не чуваць было, дзе што робіцца. Але, здавалася, навокал усё прыціхла. Цімошкін усё не мог супакоіцца ад таго, што адбылося сёння, і, можа, ад раны, ці яшчэ ад чаго ўвесь час ліхаманкава тросся. Шчарбак сваім дужым целам рассоўваў тугія сцяблiны, за ім лез замковы, увесь час аберагаючы здаровай рукой параненую. Апошні валокся Здабудзька.

Горка гэта было і крыўдна — у канцы вайны, пасля столькіх перамог і ўдач перажываць няшчасце разгрому. Калі б хоць іх асталося болей, а то вельмі ўжо небяспечна і самотна было ўтраіх туляцца па чужой зямлі, асцерагаючыся кожнага шораху і кожнага руху. Добра яшчэ, калі ў гэтай бядзе — побач надзейны таварыш, з якім звязвае цябе нешта большае, чым проста палкавое знаёмства. У гэтым сэнсе Цімошкіна трошкі суцяшала прысутнасць Івана Шчарбака. Пакуль быў жывы наводчык, хлопцу лягчэй было трываць усякае ліха, і ўдваіх з ім ён без страху пайшоў бы на ўсякую справу.

Некалі, яшчэ ў Малдавіі, Цімошкін прыйшоў у гэты полк з запаснога, дзе яго якіх месяцы два вучылі на аўтаматчыка, і таму аб гарматах ён меў толькі прыблізнае ўяўленне. І вось здарылася так, што па нейкай памылцы штабнікоў ён трапіў у тую каманду, з якой папаўнялі артылерыйскія батарэі дывізіі. Камандзір адной батарэі, які прымаў іх, калі дазнаўся, што Цімошкін непатрэбнай яму спецыялізацыі, загадаў вярнуць яго на пункт збору, каб адтуль паслаць у пяхоту. Перад тым яны зрабілі вялікі марш, дабіраючыся да фронту, хлопец пры сваім малым росце і не дужа вялікіх сілах быў прыбіўся зусім і выгляд у той час, пэўна, меў дужа кепскі. І тады яфрэйтар Шчарбак, які са старшыной павінен быў суправаджаць іх полк, папрасіў у камбата дазволу ўзяць яго ў сваю батарэю. Невядома, як яму ўдалося ўгаварыць капітана, але ўжо за адно тое Цімошкін быў удзячны гэтаму хлопцу. Мала таго, Шчарбак узяў яго ў свой разлік, дзе сам быў за наводчыка, навучыў артылерыйскай справе і з цягам часу стаў сябрам.

І хто ён яму быў? Ні радня, ні зямляк — зусім незнаёмы франтавік-хлопец. Кожнага дня яны поплеч стаялі за тою гарматай, разам гнулі ў акопе галовы ў часе бамбёжкі, разам мерзлі на сцюжы, грэючы адзін аднаго сваімі целамі. Шчарбак быў маўклівы, стрыманы, трошкі занадта ўпарты, але справядлівы. І яшчэ ён быў смелы. У Цімошкіна не было і аднаго медаля, а ён

